*Я. Н. Рапановіч*

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ



# ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛ.



Я. Н. Рапановіч

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Рэдактар
доктар філалагічных навук
П. П. Шуба



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

ББК 81.2 Бел-4
Р23

Рэцэнзенты:

В. А. Жучкевіч,
доктар геаграфічных навук,

С. М. Грабчыкаў,
кандыдат філалагічных навук,

Г. А. Каханоўскі,
кандыдат гістарычных навук

**Рапановіч Я. Н.**

Р23 Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці / Рэд. П. П. Шуба.— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.—319 с.

У пер.: 1 р. 70 к.

На беларускай і рускай мовах даюцца назвы ўсіх населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Кожная назва прыводзіцца з націскам, паказваюцца род назоўніка, родны і месны склоны; утвораны прыметнікі; адзначаецца тып пасялення, называюцца сельсавет і раён, а таксама калгас ці саўгас, на тэрыторыі якіх гэта пасяленне знаходзіцца.

Р $\frac{4602020000-046}{М316-82}$ 103—82

ББК 81.2 Бел-4
4Бел(03)

## УВОДЗІНЫ

Старая Гародня два гады таму назад яшчэ пастарэла. Археолагі, ведучы ў маі 1980 г. раскопкі, адкрылі новы помнік — Прачысценскую царкву. Знойдзеныя прадметы (плінфа, цамянка, маёлікавыя пліткі рознай формы, галаснікі) пацвярджаюць, што людзі жылі тут у XI ст. Значыць, паселішча заснавана задоўга да таго, пакуль трапіла ў пісьмовыя крыніцы. А першае ўпамінанне пра Гародню знаходзім у Іпацьеўскім летапісе. У 1128 г. гэта быў удзел князя Усевалада Давыдавіча — зяця Уладзіміра Манамаха, вялікага князя кіеўскага.

У «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» сказана, што Эрдвіл, ці Радзівіл, у 1258 г. са шматлікім войскам пайшоў на рускія землі, здратаваныя ордамі Батыя. Калі перабраліся цераз Нёман, то за кіламетраў трыццаць ад ракі (каля чатырох міль) заўважылі прыгожую высокую гару. На ёй раней высіўся стольны замак рускага князя Ноўгарадок, а татары яго зруйнавалі. Эрдвіл адбудаваў замак і асеў у ім, не праліўшы крыві (не было каму бараніцца...), заняў ладную частку зямлі рускай і пачаў пісацца вялікім князем ноўгарадоцкім. Пасля Эрдвіл падаўся далей і знайшоў над Нёманам старое гарадзішча, таксама знішчанае Батыем, пабудаваў другі замак і назваў яго Гарадком (гэта была Гародня). Адтуль рушыў на Падляшша, дзе жылі яцвягі, заняў там Бярэсце, Мельнік, Дарагічын, Сураж, Бельск, Бранск, іншыя гарады і замкі, разбураныя Батыем. Усе тыя замкі зноў адбудаваў Эрдвіл, а русь, хрысціян, што засталіся пасля жудаснага Батыевага спусташэння, прыняў літасціва пад сваю абарону. Сам жа стаў пісацца з такім тытулам: Радзівіл Монтвілавіч жамойцкі і Літоўскай зямлі патомны пан, першы вялікі князь рускі ноўгарадоцкі *.

Цяжка сказаць, наколькі праўдзіва апісвае храніст паход сына жамойцкага князя: і самога Эрдвіла і яго бацьку Монтвіла Гімбрутавіча гісторыкі лічаць легендарнымі, г. зн. выдуманымі, князямі. Ці не зроблена гэта ўстаўка храністам спецыяльна для таго, каб даказаць, што менавіта выхадзец з Жамойціі заснаваў Ноўгарадоц-

---

* Полное собрание русских летописей. Хроники: Литовская и Жмойтская и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного.— М., 1975, т. 32, с. 19.

кае княства? На тое былі важныя гістарычныя прычыны. Пасля Люблінскай уніі 1569 г. польскія феадалы пачалі настойліва адцясняць ад улады мясцовых арыстакратаў. Тады і нарадзілася легенда, што ў параўнанні з польскай літоўская знаць больш слаўнага паходжання: вялікія літоўскія князі і знакамітыя літоўскія прозвішчы бяруць свой пачатак ад родзіча самога рымскага імператара Палямона і яго паплечнікаў, якія ў даўнія часы перасяліліся з Рыма ў Жамойцю...

Гарадзе'н, Гарадзе'нь, Гаро'дна, Гаро'дня, Гро'дна... Пяць афіцыйных варыянтаў адной назвы, а корань у іх адзін — ад слоў «гарадзіць», «агароджваць». Гарадня'не, градня'не, градня'ны, градняча'не, градніча'не, гро'дненцы, градзенчукі', гро'дзенцы... Восем афіцыйных варыянтаў назваў людзей паводле месца іх пражывання або нараджэння. І ў кожным варыянце назваў як паселішча, так і людзей адчуваецца подых эпохі, што выклікала да жыцця гэтыя варыянты.

Гісторыя ж цікавая — складаная і нялёгкая — не толькі ў Гародні. Ноўгарадок, ці Наваградак, у нашы дні Навагрудак, напрыклад, таксама адзін з даўніх славянскіх гарадоў. Як паселішча ўзнік у канцы X ст. У XII ст. стаў горадам — крэпасцю на граніцы з Літвой і цэнтрам Ноўгарадоцкага княства, на чале якога каля 1238 г. стаў Міндоўг — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага — і пачаў расшыраць яго межы і за кошт уласна літоўскіх земляў. Не раз на Ноўгарадок нападалі варожыя дружыны, вынішчалі людзей, рабавалі, палілі. А ён уздымаўся з руін і жыў. Як першая сталіца Вялікага княства Літоўскага, Ноўгарадок сыграў важную ролю ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці старажытнай Літвы, тэрыторыя якой уключала і заходнюю частку Беларусі. Дарэчы, хоць княства і называлася літоўскім, дзяржаўная мова ў ім была беларуская. Нават на Гарадзельскім з'ездзе літоўскай знаці каралеўскі прывілей з лацінскай мовы перакладалі на рускую — так у той час называлі беларускую мову. І гэта натуральна: да пачатку нашага стагоддзя заходняя Беларусь называлася Літвой, а яе насельніцтва — літвінамі, або ліцвінамі. Каля 1321 г. сталіцу перанеслі ў Вільню, назва «Літва» пашырылася таксама і на землі сучаснай Літвы, дзе і замацавалася.

Гродзеншчына знаходзіцца ў басейне Нёмана. Пераважна раўнінная паверхня; умерана цёплы, вільготны клімат; шматлікія рэкі (справа Вілія, Бярэзіна, Гаўя, Дзітва, Лебяда, Котра; злева Уша, Сэрвач, Моўчадзь, Шчара, Зальвянка, Рось, Свіслач); багатыя мяшаныя хваёва-шыракаліставыя лясы (Белавежская, Налібацкая, Ліпічанская, Гродзенская пушчы) — усё спрыяла таму, што людзі пачалі тут сяліцца з эпохі позняга палеаліту. У розныя эпохі жылі

плямёны розных культур: свідэрскай, макраліта-мікралітычнай, нёманскай, шнуравой керамікі, штрыхаванай керамікі. «Тэрыторыю вобласці насялялі балты. З 2-й палавіны 1-га тысячагоддзя пачынаецца славянская каланізацыя. Тут жылі дрыгавічы, яцвягі, літва. У 10—11 ст. Гродзеншчына ў складзе Кіеўскай русі» *. У XII — першай палове XIV ст. былі Гарадзенскае, Новагарадоцкае і Ваўкавыскае княствы. З пачатку XIII ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1795 г., у выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, далучана да Расіі.

На Гродзеншчыну выпаў складаны лёс. Тут вырашалі свае спрэчкі галіцка-валынскія князі з літоўскімі князямі, мясцовыя феадалы і праваслаўе — з польскімі феадаламі і каталіцызмам, царскія чыноўнікі — з літоўска-польскімі магнатамі; тут пабывалі розныя заваёўнікі: татары, нямецкія псы-рыцары, шведы, французы, кайзераўскія рабаўнікі, гітлераўскія марадзёры. У першую сусветную вайну, напрыклад, «некалькі гадоў праз Смаргонь праходзіла лінія руска-германскага фронта. Горад быў пераветраны ў руіны, з 30 тысяч насельніцтва ў Смаргоні засталося пасля вайны толькі 154 чалавекі» **. Тэрыторыю Гродзенскай вобласці, як і Брэсцкай і часткі Мінскай, у 1920 г. захапіла буржуазная Польшча, якая аж да верасня 1939 г. вяла палітыку эксплуатацыі і нацыянальнага ўціску працоўных, рабавала прыродныя багацці, зрабіла гэтыя землі прыдаткам сваіх цэнтральных раёнаў, крыніцай сыравіны і таннай рабочай сілы, рынкам збыту прамысловых тавараў. За час гітлераўскай акупацыі «на Гродзеншчыне былі знішчаны 120 прадпрыемстваў, усе калгасы, саўгасы і МТС, у Германію пагналі ўсю грамадскую жывёлу, павезлі ўвесь металалом, нават чыгунныя крыжы з могілак...» ***

Тры гады акупацыі Гродна і 33 тысячы забітых і замардаваных! У Ваўкавыскім раёне расстралялі 29 332, Лідскім — 25 148, Навагрудскім — 45 065 чалавек... Ва ўсіх населеных пунктах пакінулі свае сляды гаспадары «новага парадку». Аднак ні з чым не параўнаць лёс вогненных вёсак. Прайшло ўжо амаль сорак гадоў, а помнікі на месцах людской трагедыі пякучым болем поўняць сэрцы жывых.

Полымя — 39 чалавек, 7 двароў...
Сіні Камень — 87 чалавек, 17 двароў...
Шавулічы — 366 чалавек, 77 двароў...

* Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: У 12-і т.— Мн., 1971, т. 4, с. 13.
** Белорусская ССР. Гродненская область.— Мн., 1976, с. 31.
*** Тамсама, с. 63.

Шкленск — 83 чалавекі, 17 двароў...
Юраўскія — 28 чалавек, 5 двароў...*

Усё гэта населеныя пункты, знішчаныя разам з жыхарамі. Не было каму адраджаць іх: з палымянцамі, сінякаменцамі, шавулічанамі, шкленцамі, юраўцамі сталася тое, што і з іх жыллём. Праўда, пасля вайны ў Полымі паставілі тры хаты, у Шкленску — дзве, у Сінім Камені — адну, а назву «вёска» захавалі. Гэта — свайго роду помнікі тым, хто загінуў разам з паселішчамі.

Ніхто з чужынцаў, вядома, доўга не гаспадарыў, а шкода ад іх «візітаў» была вялікая: гінулі людзі, папялелі паселішчы, знікалі набыткі культуры...

Ішлі князь на князя, браліся за чубы вяльможныя паны, прышляцы-заваёўнікі абіралі да ніткі, а простыя людзі, чые мазольныя рукі стваралі ўсё багацце, жылі як добрыя суседзі. Незалежна ад таго, былі гэта беларусы, палякі, рускія, украінцы, літоўцы ці татары. Дапамагалі адзін аднаму, пазычалі адзін у аднаго, дзяліліся адзін з адным і хлебам і словам. А калі трэба было пастаяць за Бацькаўшчыну, самаахвярна, не шкадуючы жыцця, баранілі яе. Прыгадаем хаця б, як католікі і праваслаўныя, згуртаваўшыся, далі адпор крыжакам у Ваўкавыску; як жыхары Гродзеншчыны мужна трымаліся ў Грунвальдскай бітве; як беларусы, рускія, украінцы, палякі ды прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, бы тыя сыны з адной дружнай сям'і, гераічна змагаліся супраць гітлераўскага фашызму, пасля вайны дружна аднаўлялі зруйнаваныя гарады і вёскі, цяпер актыўна працуюць на камунізм.

Гэта край, які даў такіх людзей, як Фёдар Еўлашоўскі, Адам Міцкевіч, Францішак Багушэвіч, Эліза Ажэшка, Валеры Урублеўскі, Кастусь Каліноўскі, Цётка...

Зямля гэта цікавая і этна-культурнымі з'явамі, назвамі рэк, паселішчаў. Тут у добрай згодзе суседзяць і беларускія і літоўскія найменні. Скажам, літоўскія Drùskininkai (Друскінінкай) беларусы завуць Друскенікі, Švenčiónys (Швенчоніс) — Свянцяны, Pabradẽ (Пабрадзе) — Падброддзе, Kenà (Кена) — Кавальчукі...

Назвы населеных пунктаў дапамагаюць чытаць біяграфію самой зямлі. А Гродзенская вобласць, як і ўвесь паўночны захад БССР,— зона даўніх дзейных сувязей з літоўскай і польскай мовамі. Гэта выявілася і ў айконімах: Дваржышча, Ёні, Жыбарты, Кемелішкі, Ракսці... (параўнаем літоўскія Dvaržiškis, Jonà, Žybartai, Kiemieliškis, R̃ekštiškė...); Бжэгі, Гатуўка, Гаюўка, Дамброва, Замэчак... (параўнаем польскія Brzegi, Gotówka, Gajówka, Dąbrowa,

* Беларуская Савецкая Энцыклапедыя.— Мн., 1974, т. 11, с. 39.

Zameczek...). Назіранні паказваюць, што і літоўская і польская мовы ўплывалі на беларускія назвы населеных пунктаў не толькі айконімаўтваральнымі асновамі, але і фармантамі, і ўжываннем націску, і вымаўленнем паасобных гукаў. Аднак пытанні гэтыя выходзяць за межы слоўніка, таму яны ва ўводзінах і не разглядаюцца.

* * *

Сярод абласцей БССР Гродзенская мае самую меншую плошчу — 25 100 кв. км; па колькасці насельніцтва на 1 студзеня 1981 г. яна таксама была на апошнім месцы — 1 137 000 чалавек *.

У 1964 г. з 30 211 населеных пунктаў Беларусі на долю Гродзенскай вобласці прыпадала 4 822; у 1968 г. з 29 342 у ёй было 4 946; у 1974 г. з 27 442 яна мела 4 708; у 1981 г. з 26 299 стала 4 663 **. На 1 студзеня 1982 г. у вобласці *** налічвалася 10 гарадоў (5 абласнога падпарадкавання: Ваўкавыск, Гродна, Ліда, Навагрудак, Слонім; 5 раённага падпарадкавання: Ашмяны, Масты, Скідаль, Смаргонь, Шчучын), 21 гарадскі пасёлак (Астравец, Астрына, Бярозаўка, Воранава, Вялікая Бераставіца, Дзятлава, Жалудок, Зэльва, Іўе, Казлоўшчына, Карэлічы, Краснасельскі, Любча, Мір, Наваельня, Поразава, Радунь, Рось, Сапоцкін, Свіслач, Юрацішкі), 2 рабочыя пасёлкі (Пагранічны, Першамайскі), 13 былых мястэчак, 24 пасёлкі, 3 974 вёскі, 45 засценкаў, 729 хутароў, 29 чыгуначных станцый, 8 раз'ездаў, 23 пасялковыя і 201 сельскі Саветы.

Гродзенская вобласць мяжуе на поўначы з Літоўскай ССР, на захадзе — з Беластоцкім і Бяльска-Падляскім ваяводствамі Польскай Народнай Рэспублікі, на поўдні — з Брэсцкай, на ўсходзе — з Мінскай абласцямі.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» па крыніцах, характары адбору матэрыялу, па структуры, тыпах

* Народное хозяйство Белорусской ССР.— Мн., 1981, с. 9.

** Падлікі зроблены паводле даведніка: Белорусская ССР. Административно-территориальное деление.— Мн., 1964; 1968; 1974; 1981.

*** На перспектыўнае развіццё, акрамя гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, плануецца 379 пасяленняў. Заўважым між іншым, што ў недалёкай будучыні на Беларусі застанецца 2 745 сельскіх населеных пунктаў. У іх цяпер і канцэнтруюцца асноўныя віды будаўніцтва.

артыкулаў і іх змесце такі самы, як і слоўнікі па Віцебскай, Брэсцкай і Мінскай абласцях *.

Ставячы мэтаю стварыць слоўнік назваў паселішчаў на тэрыторыі сучаснай Гродзенскай вобласці, аўтар карыстаўся трыма крыніцамі. Першая: запісы на месцы — ад старажылаў вёсак, былых мястэчак, пасёлкаў, хутароў. Другая: перапіска з мясцовымі карэспандэнтамі. Трэцяя: друкаваныя матэрыялы (карты, даведнікі, зборнікі законаў, спісы і інш.). На першым плане, безумоўна, запісы, зробленыя ў 1947—1980 гг. на месцы. Бо сапраўднай афіцыйнай формай айконіма, як і ўсякага іншага тапоніма, неабходна лічыць назву, якой карыстаецца сам народ. Вызначыць такую назву ў значнай ступені дапамагалі пісьмы настаўнікаў, студэнтаў, работнікаў мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці» беларуска-рускі. Складаецца ён з дзвюх частак.

У першай частцы даюцца назвы ўсіх паселішчаў (гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, пасёлкаў, былых мястэчак, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў), якія ёсць на сучаснай тэрыторыі вобласці. Сюды ўключаюцца і назвы (на жаль, не ўсе) населеных пунктаў, пры Савецкай уладзе далучаных да гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, сселеных або аб'яднаных з іншымі, а таксама спаленых у Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі (пасля вайны не адноўленых).

Кожны айконім пішацца паводле арфаграфічных нормаў, прынятых у сучаснай літаратурнай мове (беларускай і рускай), і мае пазначаны націск — толькі на па-беларуску напісаных назвах і ўтвораных ад іх прыметніках. Пры назве населенага пункта падаецца граматычны род, родны і месны склон айконімаў. Пры назоўніках жаночага роду, што маюць аднолькавыя канчаткі ў родным і месным склонах, канчатак паказваецца адзін раз; пры назоўніках, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, ёсць памета мнл., што абазначае «множналікавы назоўнік». Калі ў родным

* Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці.— Мн., 1981. Рэцэнзавалі: Агеева Р. А.— Реферативный журнал. Сер. 6. Языкознание. М., 1982, № 1, с. 175; Дамашовец Г. Слоўнік назваў населеных пунктаў.— Святло камунізму, 1982, 6 лютага, с. 4; Ермаловіч Мікола. У назвах — энцыклапедыя.— Літаратура і мастацтва, 1981, 17 ліпеня, с. 6; Жилко Е. Справочник, который нужен многим.— За передовую науку, 1981, 22 мая, с. 7; Камароўскі Я. Геаграфічныя назвы родных мясцін.— Настаўніцкая газета, 1981, 31 кастрычніка, с. 4; Лыч Л. Славесны партрэт мінуўшчыны.— Чырвоная змена, 1981, 11 жніўня, с. 3; Розенблюм А. Назва нашай вёскі.— Камуністычная праца, 1982, 15 студзеня, с. 3.

склоне множнага ліку назва населенага пункта ўжываецца з нулявым канчаткам і канчаткам -аў, то прыводзяцца абедзве формы: першая — асноўная, другая — магчымая. Прыводзяцца таксама прыметнікі, беларускі і рускі, утвораныя ад айконімаў.

Паказваецца тып населенага пункта; пры гарадах, гарадскіх, рабочых пасёлках даецца год, з якога гэты населены пункт стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам, паказваецца падпарадкаванне (абласное, раённае); адзначаецца, цэнтрам чаго з'яўляецца населены пункт (абласнога, раённага, пасялковага, сельскага Савета), у якім сельсавеце і раёне знаходзіцца, у які калгас ці саўгас (пры негарадах) уваходзіць.

**Абу'хава** н., -ва, -ве **Обухово.** Абу'хаўскі Обуховский
в.—ц. Абухаўскага с/с Гродзенскага р-на і к-са «Шлях да камунізму».

**Дзітва** ж., -вы, -ве **Дитва.** Дзітвя'нскі Дитвянский
п. з 1976 г.— ц. Дзітвянскага с/с Лідскага р-на, торфабрыкетны з-д «Дзітва».

**Сло'нім** м., -ма, -ме **Слоним.** Сло'німскі Слонимский
летапісы называюць у 1252 г., г. абласнога падпарадкавання, ц. Слонімскага р-на.

Перайменаваныя населеныя пункты маюць год перайменавання і старую назву. Каб лягчэй было іх знайсці, старыя і новыя назвы звязаны двухбаковымі спасылкамі.

**Жы'даўшчына** ж., -ны, -не **Жидовщина.** Жы'даўшчынскі Жидовщинский
в. да 1969 г. у Путрышкаўскім с/с Гродзенскага р-на. Гл. **Прынёманская.**

**Прынёманская** ж., -кай **Принёманская.** Прынёманскі Принёманский (да 1969 г. Жы'даўшчына) в. у Путрышкаўскім с/с Гродзенскага р-на, у вучгасе «Прынёманскі».

Не вызначаецца граматычны род айконімаў і не паказваюцца іх формы ў родным і месным склонах, калі населеныя пункты называюцца (ці называліся) паводле вытворчай прыкметы ці роду занятка ў людзей. Пры такіх назвах няма таксама і прыметнікаў.

**Пасёлак раённага аб'ядна'ння «Сельгасто'хніка» Посёлок районного объединения «Сельхозтехника»**
п. у Ліпнішкаўскім с/с Іўеўскага р-на.

**Цэнтр саўга'са «Бераставі'цкі» Цэнтр совхоза «Берестовицкий»**

в. у Алекшыцкім с/с Бераставіцкага р-на, ц. с-са «Бераставіцкі».

Па-руску беларускія айконімы перадаюцца зыходзячы з традыцыі, заснаванай на блізкай роднасці беларускай і рускай моў, і ў адпаведнасці з асноўнымі нормамі, якіх патрабуе «Инструкция по русской передаче географических названий Белорусской ССР» (М., 1971).

Як і іншыя геаграфічныя назвы, айконімы ўзнікаюць і скарыстоўваюцца для таго, каб назваць канкрэтны аб'ект, вылучыць яго сярод падобных, надаць адзіны «адрас», таму яны, як правіла, інтэрнацыянальныя і не перакладаюцца з мовы на мову. Гэта істотнае палажэнне, прынятае ў сучаснай навуцы, улічана ў слоўніку.

**Дваржы'шча** н., -ча, -чы **Дворжище.** Дваржы'шчанскі Дворжищенский

в. у Кемелішкаўскім с/с Астравецкага р-на, у с-се «Рытанскі».

**Гату'ўка** ж., -кі, -ўцы **Готувка.** Гату'ўскі Готувский

в. у Нацкім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Светлы шлях».

**Ро'шчыца** ж., -цы **Рощица.** Ро'шчыцкі Рощицкий

(да 1969 г. Магі'льніца) в. у Кашалёўскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Усход».

**Ца'цкі** мнл., -цак/-каў, -ках **Цацки.** Ца'цкаўскі Цацковский

в. у Тарноўскім с/с Лідскага р-на, у с-се «Тарнова».

Калі мясцовыя людзі ў састаўных назвах вымаўляюць па-беларуску словы «вялікая», «вялікае», «вялікія» (вёскі Вялікая Воля ў Рудаяварскім сельсавеце Дзятлаўскага раёна, Вялікае Мажэйкава ў Мажэйкаўскім сельсавеце Шчучынскага раёна, Вялікія Эйсманты ў Эйсмантаўскім сельсавеце Бераставіцкага раёна), а пры напісанні назваў па-руску гэтыя прыметнікі перакладаюць (Большая Воля, Большое Можейково, Большие Эйсмонты), то перавага аддаецца беларускай назве і ў кнізе астаюцца Великая Воля, Великое Можейково, Великие Эйсмонты.

Выключэнне складае слова «першы»: ці яно з'яўляецца часткаю састаўной назвы, ці ўваходзіць як элемент у складаны айконім — заўсёды паводле традыцыі, замацаванай штодзённай практыкай, перакладаецца.

**Першама'йская** ж., -кай **Первомайская.** Першама'йскі Первомайский

(да 1954 г. Саба'кінцы) в.— ц. Першамайскага с/с Шчучынскага р-на і с-са «Першамайскі»;

в. у Шчучынскім с/с Шчучынскага р-на, у к-се «1 Мая».

**Першама′йскі** м., -кага, -кім **Первомайский.** Першама′йскі Первомайский
(да 1948 г. Ка′шчыца) п. у Ярэміцкім с/с Карэліцкага р-на, у к-се імя У. З. Царука;
р. п. з 1964 г.— ц. Першамайскага п/с Лідскага р-на, торфапрадпрыемства «40 гадоў БССР».

Назіраюцца выпадкі, калі мясцовая народная назва не супадае з пісьмовай афіцыйнай, якая ўжо так трывала замацавалася ў розных друкаваных крыніцах, што нават паступова пачала выцясняць мясцовую. У такім разе даюцца абедзве назвы — спачатку пісьмовая, афіцыйная, а потым (у дужках) мясцовая, народная.

**О′рдзевічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ордевичи.** О′рдзевіцкі Ордевичский
(Во′рдзевічы) в. у Навасёлкаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Світанне».
**Уша′** ж., Ушы **Уша.** Уша′нскі Ушанский
(Вуша′) в. у Жухавіцкім с/с Карэліцкага р-на, у к-се імя П. А. Жалезняковіча.
**Фе′нькава** н., -ва, -ве **Фенькоро.** Фе′нькаўскі Феньковский
(Хве′нькава) в. да 1979 г. у Скідальскім с/с Гродзенскага р-на.

Аднолькавыя назвы змешчаны ў адным артыкуле. Прычым самі назвы не паўтараюцца. Звесткі пра кожны населены пункт, незалежна ад яго тыпу, падаюцца зыходзячы з алфавітнага парадку раёнаў, а для паселішчаў у адным і тым жа раёне — зыходзячы з алфавітнага парадку сельсаветаў.

**Падбо′р'е** н., -р'я, -р'і **Подборье.** Падбо′рскі Подборский
з. у Падольскім с/с Астравецкага р-на, у с-се «Падольскі»;
в. у Ятранскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Сцяг працы».
**Ра′каўшчына** ж., -ны, -не **Раковщина.** Ра′каўшчынскі Раковщинский
х. у Нязбодзіцкім с/с Свіслацкага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына;
в. у Поразаўскім п/с Свіслацкага р-на, у с-се «Гарнастаевічы».

Бывае, што ў адным і тым жа сельсавеце ёсць аднолькавыя назвы, якія маюць адрозніальныя паказальнікі I, II і г. д. Тады спачатку даецца назва без паказальніка, а затым — з чарговымі нумарамі. Прычым першай ідзе назва населенага пункта, які ёсць на сённяшні дзень, за ёй — назвы далучаных, сселеных ці аб'яднаных паселішчаў.

**Глушы'ца** ж., -цы **Глушица.** Глушы'цкі Глушицкий
в. у Жукоўшчынскім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се «1 Мая».

**Глушы'ца I** ж., -цы **Глушица I.** Глушы'цкі I Глушицкий I
х. да 1977 г. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на.

**Глушы'ца II** ж., -цы **Глушица II.** Глушы'цкі II Глушицкий II
х. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «50-годдзе ВЛКСМ».

**Глушы'ца III** ж., -цы **Глушица III.** Глушы'цкі III Глушицкий III
х. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Глушы'ца IV** ж., -цы **Глушица IV.** Глушы'цкі IV Глушицкий IV
х. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

Назвы населеных пунктаў, сселеных ці аб'яднаных з іншымі, стаяць у агульным алфавітным парадку. Пры іх паказваецца год, да якога было паселішча.

**Ро'дзеўшчына** ж., -ны, -не **Родевщина.** Ро'дзеўшчынскі Родевщинский
х. да 1980 г. у Такарышкаўскім с/с Іўеўскага р-на.

**Сабі'лкі** мнл., -лак/-каў, -ках **Сабилки.** Сабі'лкаўскі Сабилковский
х. да 1978 г. у Ардашоўскім с/с Смаргонскага р-на.

У састаўных назвах словы стаяць у звычайным, а не інверсійным парадку: Дзікушкаўскія Баяры (Ходараўскі сельсавет Лідскага раёна), Жалудоцкія Баяры, Лябёдскія Баяры (Жалудоцкі пассавет Шчучынскага раёна), Смалоцкія Баяры (Беліцкі сельсавет Лідскага раёна), хоць бытуе і Баяры Дзікушкаўскія, Баяры Жалудоцкія, Баяры Лябёдскія, Баяры Смалоцкія. Каб лягчэй было адшукаць патрэбную назву, у такіх выпадках даецца спасылка.

**Бая'ры Дзіку'шкаўскія** гл. **Дзіку'шкаўскія Бая'ры.**
**Бая'ры Жалудо'цкія** гл. **Жалудо'цкія Бая'ры.**
**Бая'ры Лябёдскія** гл. **Лябёдскія Бая'ры.**
**Бая'ры Смало'цкія** гл. **Смало'цкія Бая'ры.**

Пільнае вока чытача заўважыць, што ў слоўніку даюцца не ўсе назвы паселішчаў, якія ў свой час па нейкіх прычынах зніклі: сселеных, спаленых, далучаных да суседніх і г. д. Есць, напрыклад, хутар Старына III (Сыраваткаўскі сельсавет Смаргонскага раёна) і няма назваў Старына I, Старына II. Іх не ўдалося адшукаць. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што з чатырох шляхоў знікнення на-

селеных пунктаў цяпер, калі планамерна ажыццяўляецца праграма перабудовы вёскі, самыя актыўныя ссяленне з хутароў і аб'яднанне невялікіх паселішчаў у большыя. Напрыклад, толькі ў Іўеўскім раёне рашэннем Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў ад 28 ліпеня 1980 г. выключана з уліку 17 хутароў: Баркі, Выдзішкі, Вярхоліха, Гаст, Гнілуха, Дубаносіха, Замосце, Ізабыліна, Крэчаўшчына, Куль-Юзэфава, Ластаўшчына, Мяцішча, Пагаўе, Родзеўшчына, Рудая, Спад, Шыльвы-Бор *. Усяго за дзесятую пяцігодку (1975—1980 гг.) у Гродзенскай вобласці не стала каля тысячы хутароў **.

Сселеныя ці далучаныя да большых населеныя пункты выключаюць з уліку. Калі назва такога паселішча мела паказальнікі I, II і г. д., то пасля выключэння пры назве паселішча, якое засталося, перастаюць ужываць гэтыя паказальнікі. Так, у Смаргонскім раёне ў 1968 г. выключылі з уліку вёску Кушляны II (Кушлянскі сельсавет), у 1971 г.— вёскі Андрэеўцы II і Ашмянец II (Сыраваткаўскі сельсавет). З таго часу вёскі Кушляны I, Андрэеўцы I, Ашмянец I найчасцей называюць проста Кушляны, Андрэеўцы, Ашмянец. Ужо няма патрэбы адрозніваць населеныя пункты з аднолькавымі назвамі, бо са знікненнем паселішча знікае і яго імя (у дакументах, вядома, яно застаецца). Значыць, ва ўсёй Гродзенскай вобласці за 1975—1980 гг. знікла каля тысячы назваў. Шкада, што не ўсе яны трапілі ў гэты слоўнік...

Назвы калгасаў і саўгасаў падаюцца ў поўнай адпаведнасці з тымі пісьмовымі афіцыйнымі назвамі, што прыняты на месцах. Праўда, замест ускладненых назваў тыпу ордэна Леніна калгас імя А. М. Варанецкага (Бераставіцкі раён), ордэна Леніна калгас «Прагрэс» (Гродзенскі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя С. М. Кірава (Шчучынскі раён), калгас «Звязда» імя 50-годдзя СССР (Навагрудскі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга племзавод «Рось» (Ваўкавыскі раён), ордэна «Знак Пашаны» племзавод «Карэлічы» (Карэліцкі раён) пакідаюцца кароткія: калгас імя А. М. Варанецкага, калгас «Прагрэс», калгас імя С. М. Кірава, калгас «Звязда», племзавод «Рось», племзавод «Карэлічы» і замест напісанняў «1 Мая», «1-е Мая», «1-ае Мая», «Першае мая», «Першае Мая», «Першага мая», «Першага Мая», якія можна знайсці на штампах, пячатках і ў раённых газетах, узята адна форма — «1 Мая». Прынята таксама пад увагу рэкамендацыя

* Збор законаў Беларускай ССР, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў Савета Міністраў Беларускай ССР.— Мн., 1980, № 31, с. 686.

** Вырaслі пасёлкі.— Звязда, 1980, 28 верасня, с. 4.

Тэрміналагічнай камісіі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пісаць: калгас (саўгас) «Світанне», а не калгас (саўгас) «Рассвет». Пры ўсіх назвах мемарыяльнага паходжання, утвораных паводле мадэлі «імя+прозвішча чалавека, чыя памяць ушаноўваецца», перад прозвішчам пастаўлены ініцыялы. Гэта поўнасцю адпавядае аналагічным назвам фабрык, заводаў, навучальных і навуковых устаноў і інш.

У другой частцы змешчаны (таксама ў алфавітным парадку) назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Пры раёнах паказаны: дата ўтварэння; плошча, цэнтр; адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, да Гродна і да Мінска; колькасць пасялковых і сельскіх Саветаў; агульная колькасць паселішчаў, сярод іх — колькасць гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, былых мястэчак, пасёлкаў, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў, а таксама колькасць калгасаў і саўгасаў, паселішчаў, запланаваных на перспектыўнае развіццё. Пры пасялковых і сельскіх Саветах — цэнтр; раён, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда і да раённага цэнтра; колькасць паселішчаў, калгасаў і саўгасаў.

Усяго (з улікам фанетычных і лексічных варыянтаў) у слоўніку 4427 назваў, якія прыпадаюць на 5314 населеных пунктаў. Сярод іх паселішчы (486), спаленыя нямецкімі фашыстамі ў Айчынную вайну і неадноўленыя, далучаныя да гарадоў або гарадскіх пасёлкаў, сселеныя ці аб'яднаныя ў большыя.

Аўтар выказвае шчырую падзяку доктару філалагічных навук П. П. Шубе, доктару геаграфічных навук В. А. Жучкевічу, кандыдату філалагічных навук С. М. Грабчыкаву, кандыдату гістарычных навук Г. А. Каханоўскаму за каштоўныя парады, Навуковаму савету пры аддзяленні грамадскіх навук АН БССР па праблеме «Беларускае і рускае мовазнаўства», які рэкамендаваў слоўнік да друку, работнікам мясцовых партыйных і савецкіх органаў, настаўнікам, студэнтам за іх звесткі, скарыстаныя пры ўкладанні даведніка.

## СКАРАЧЭННІ

Айч.— Айчынны
Астр.— Астравецкі раён
Ашм.— Ашмянскі раён
Бераст.— Бераставіцкі раён
в.— вёска
Ваўк.— Ваўкавыскі раён
Воран.— Воранаўскі раён
г.— горад
гл.— глядзі
г. п.— гарадскі пасёлак
Гродз.— Гродзенскі раён
г/с — гарадскі Савет
д/а — дом адпачынку
Дзятл.— Дзятлаўскі раён
ж.— жаночы род
з.— засценак
з-д — завод
Зэльв.— Зэльвенскі раён
Іўеў.— Іўеўскі раён
Карэл.— Карэліцкі раён
к-с — калгас
л.— леснічоўка
л-ва — лясніцтва
Лід.— Лідскі раён
м.— мужчынскі род
Маст.— Мастоўскі раён
мнл.— множналікавы назоўнік
мяст.— мястэчка
н.— ніякі род
Навагр.— Навагрудскі раён
ням.— нямецкі
п.— пасёлак
п/с — пасялковы Савет
р-д — раз'езд
р-н — раён
р. п.— рабочы пасёлак
р/ц — раённы цэнтр
Свісл.— Свіслацкі раён
Сл.— Слонімскі раён
Смарг.— Смаргонскі раён
с/с — сельскі Савет
с-с — саўгас
х.— хутар
ц.— цэнтр
чыг. пст.— чыгуначны паўстанак
чыг. ст.— чыгуначная станцыя
Шчуч.— Шчучынскі раён
эксперымент.— эксперыментальны

## А

**Абалі́шкі** мнл., -шак/-каў, -как **Аболишки.** Абалі́шкаўскі Аболишковский
х. у Пагародзенскім с/с Воранаўскага р-на, у эксперымент. базе «Пагародна».

**Абе́лькавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Абельковичи.** Абе́лькавіцкі Абельковичский
в. у Дварэцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава.

**Абма́нічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Обманичи.** Абма́ніцкі Обманичский (да 1949 г. Ху́тныя) в. у Дубровенскім с/с Лідскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына.

**Абма́нка** ж., -кі, -нцы **Обманка.** Абма́нскі Обманский
х. у Каменналожскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна.

**Абра́маўшчына I** ж., -ны, -не **Абрамовщина I.** Абра́маўшчынскі I Абрамовщинский I
в. у Вішнеўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Абра́маўшчына II** ж., -ны, -не **Абрамовщина II.** Абра́маўшчынскі II Абрамовщинский II
х. да 1971 г. у Вішнеўскім с/с Смаргонскага р-на.

**Абра́маўшчына III** ж., -ны, -не **Абрамовщина III.** Абра́маўшчынскі III Абрамовщинский III
в. у Вішнеўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Абра́мішкі** мнл., -шак/-каў, -как **Абрамишки.** Абра́мішкаўскі Абрамишковский
в. у Забалацкім с/с Воранаўскага р-на, у с-се імя Я. Купалы.

**Абру́б** м., -ба, -бе **Обруб.** Абру́бскі Обрубский
в. у Астрынскім п/с Шчучынскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Абру́бы** мнл., -баў, -бах **Обрубы.** Абру́бскі Обрубский
в. у Крупаўскім с/с Лідскага р-на, у к-се «Зара».

**Абу́хава** н., -ва, -ве **Обухово.** Абу́хаўскі Обуховский
в.— ц. Абухаўскага с/с Гродзенскага р-на і к-са «Шлях да камунізму».

**Абухо́вічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Обуховичи.** Абухо́віцкі Обуховичский
в. у Абухаўскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Шлях да камунізму».

**Аве́ны** мнл., -ен/-наў, -нах **Авены.** Аве́нскі Авенский
в. у Міхалішкаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».

**Аве́чкі** мнл., -чак/-каў, -как **Овечки.** Аве́чкаўскі Овечковский

в. да 1964 г. у Жодзішкаўскім с/с Смаргонскага р-на. Гл. **Сасно′ўка.**

**Аве′чыцы** мнл., -ыц/-цаў, -цах **Овечицы.** Аве′чыцкі Овечицкий

в. у Славаціцкім с/с Зэльвенскага р-на, у к-се «Кастрычнік».

**Агаро′дзішча** н., -ча, -чы **Огородище.** Агаро′дзішчанскі Огородищенский

в. у Першамайскім с/с Шчучынскага р-на, у с-се «Сцяг Саветаў».

**Агаро′днікі** мнл., -каў, -ках **Огородники.** Агаро′дніцкі Огородникский

в. у Навасёлкаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Світанне»;
в. да 1978 г. у Канюхоўскім с/с Бераставіцкага р-на;
в. у Роскім п/с Ваўкавыскага р-на, у к-се імя 50-годдзя СССР;
в. у Шылавіцкім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се «Талькаўцы»;
в. у Воранаўскім п/с Воранаўскага р-на, у с-се «Воранаўскі»;
в. у Абухаўскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Шлях да камунізму»;
в. у Гожскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Іскра»;
в. у Квасоўскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Кастрычнік»;
в. у Мяляхавіцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у с-се «Мяляхавічы»;
в. у Парэцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у с-се «Парэчча»;
в. у Ліпнішкаўскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се «Авангард»;
в. у Ганчароўскім с/с Лідскага р-на, у к-се імя В. П. Чкалава;
в. у Дубровенскім с/с Лідскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына;
в. у Тарноўскім с/с Лідскага р-на, у с-се «Тарнова»;
в. у Ходараўскім с/с Лідскага р-на, у к-се «Беларусь»;
в. у Зарудаўскім с/с Мастоўскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь»;
в. у Харціцкім с/с Мастоўскага р-на, у к-се «Дружба»;
в. у Руткаўскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Прагрэс»;
в. у Вердаміцкім с/с Свіслацкага р-на, у с-се «Вердамічы»;
в. у Шчучынскім с/с Шчучынскага р-на, у к-се «1 Мая».

**Ага′тава** н., -ва, -ве **Агатово.** Ага′таўскі Агатовский

в. у Дабрасельскім с/с Зэльвенскага р-на, у к-се імя Ф. Э. Дзяржынскага.

**Агло′бішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Оглобишки.** Агло′бішкаўскі Оглобишковский

х. у Трабскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се «Звязда».

**Агры′зкі** мнл., -каў, -ках **Огрызки.** Агры′зкаўскі Огрызковский

в. у Лупненскім с/с Мастоўскага р-на, у к-се імя Дз. М. Карбышава.

**Агу′льс** м., -са, -се **Агульс.** Агу′льскі Агульсский

в. у Дамброўскім с/с Шчучынскага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.

**Ада′мавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Адамовичи.** Ада′мавіцкі Адамовичский

в. у Баранавіцкім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».

**Ада′маўшчына** ж., -ны, -не **Адамовщина.** Ада′маўшчынскі Адамовщинский

в. у Кальчунскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Ясная Паляна».

**Адамо′ва** н., -ва, -ве **Адамово.** Адамо′ўскі Адамовский

х. да 1976 г. у Гальшанскім с/с Ашмянскага р-на;
в. у Воранаўскім п/с Воранаўскага р-на, у с-се «Воранаўскі»;
х. у Юрацішкаўскім п/с Іўеўскага р-на, у эксперымент. базе «Чарнелі».

**Ада'мпаль** м., -ля, -лі **Адамполь.** Ада'мпальскі Адампольский
в. у Нягневіцкім с/с Навагрудскага р-на, школа-інтэрнат.

**Адве'рнікі** мнл., -каў, -ках **Адверники.** Адве'рніцкі Адверникский
в. у Доцішкаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «За Радзіму».

**Адзве'рна** ж., -ны, -не **Одверна.** Адзве'ранскі Одверенский
в. у Гудзевіцкім с/с Мастоўскага р-на, у к-се «Іскра».

**Аднапо'ль** м., -ля, -лі **Однополь.** Аднапо'льскі Однопольский
в. у Ліпнішкаўскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се «Радзіма».

**Адры'нішча** н., -ча, -чы **Одринище.** Адры'нішчанскі Одринищенский
х. у Парэцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у с-се «Парэчча».

**Адэ'льск** м., -ка, -ку **Одельск.** Адэ'льскі Одельский
дакументы называюць у 1551 г., в.—ц. Адэльскага с/с Гродзенскага р-на і к-са «Савецкі пагранічнік».

**Ае'лі** мнл., Аель/-ляў, -лях **Аели.** Ае'льскі Аельский
х. у Кемелішкаўскім с/с Астравецкага р-на, у с-се «Кемелішкі».

**Ажале'і** мнл., -ей/-еяў, -еях **Ожелеи.** Ажале'йскі Ожелейский
в. у Палянскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Маяк».

**Ажу'балі** мнл., -аль/-ляў, -лях **Ажубали.** Ажу'бальскі Ажубальский
в. у Канвелішкаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Утканы».

**Ажу'гары** млн., -ар/-раў, -рах **Ажугары.** Ажу'гарскі Ажугарский
в. у Сольскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Усход».

**Ажу'кальні** млн., -няў, -нях **Ажукальни.** Ажу'кальненскі Ажукальненский
в. у Канвелішкаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Утканы».

**Ажу'лаўка** ж., -кі, -ўцы **Ажуловка.** Ажу'лаўскі Ажуловский
х. у Гервяцкім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Радзіма».

**Ажуро'йсці** мнл., -цяў, -цях **Ажуройсти.** Ажуро'йсценскі Ажуройстенский
в. у Ізабелінскім с/с Астравецкага р-на, у к-се імя М. І. Калініна.

**Ажы'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Ожишки.** Ажы'шкаўскі Ожишковский
х. у Навасёлкаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Світанне».

**Ажэ'лішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Ожелишки.** Ажэ'лішкаўскі Ожелишковский
в. у Жырмунскім с/с Воранаўскага р-на, у эксперымент. базе «Кастрычнік».

**Аза'рычы** мнл., -ыч/-чаў, -чах **Азаричи.** Аза'рыцкі Азаричский
в. у Паўлаўскім с/с Слонімскага р-на, у к-се «Кастрычнік».

**Аза'рышкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Азаришки.** Аза'рышкаўскі Азаришковский
х. да 1970 г. у Граўжышкаўскім с/с Ашмянскага р-на.

**Азгі'навічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Озгиновичи.** Азгі'навіцкі Озгиновичский
в.— ц. Азгінавіцкага с/с Слонімскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.

**Аздо'бічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Оздобичи.** Аздо'біцкі Оздобичский
в. у Каменскім с/с Шчучынскага р-на, у с-се «Пратасаўшчына».

**Азе'рская** ж., -кай **Озерская.** Азе'рскі Озерский
(Во'зерская) в. у Мірскім п/с Карэліцкага р-на, у с-се «Мірскі».

**Азёры** мнл., -ёр/-раў, -рах **Озёры.** Азёрскі Озёрский

дакументы называюць у 1518 г., в.— ц. Азёрскага с/с Гродзенскага р-на і к-са «Азёры».

**Азяра'ны** мнл., -ан/-наў, -нах **Озераны.** Азяра'нскі Озеранский в. у Дварэцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава.

**Азярні'ца** ж., -цы **Озерница.** Азярні'цкі Озерницкий в.— ц. Азярніцкага с/с Слонімскага р-на і к-са «Прагрэс»; чыг. ст. у Азярніцкім с/с Слонімскага р-на, у к-се «Прагрэс».

**Азяры'ска** н., -ка, -ку **Озериско.** Азяры'скаўскі Озерисковский х. у Ваўкавыскім с/с Ваўкавыскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава.

**Айцві'лы** мнл., -іл/-лаў, -лах **Айцвилы.** Айцві'льскі Айцвильский в. у Жодзішкаўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Запаветы Леніна».

**Айцо'ва** н., -ва, -ве **Ойцово.** Айцо'ўскі Ойцовский в. у Малабераставіцкім с/с Бераставіцкага р-на, спіртзавод «Айцова».

**Ака'навічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Акановичи.** Ака'навіцкі Акановичский в. у Цырынскім с/с Карэліцкага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».

**Акартэ'лі** мнл., -эль/-ляў, -лях **Акартели.** Акартэ'льскі Акартельский в. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Акачы'** мнл., -чоў, -чах **Акачи.** Акачо'ўскі Акачёвский в. у Паўлаўскім с/с Слонімскага р-на, у к-се «Кастрычнік».

**Акмяне'і** мнл., -ей/-еяў, -еях **Акмянеи.** Акмяне'йскі Акмянейский х. у Кальчунскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Ясная Паляна».

**Ако'ліца** ж., -цы **Околица.** Ако'ліцкі Околицкий в. у Малюшыцкім с/с Карэліцкага р-на, у к-се імя М. І. Калініна.

**Ако'ліца Бара'навічы** мнл., -цы іч/-чаў, -цы -чах **Околица Барановичи.** Аколіцабара'навіцкі Околицебарановичский в. у Трабскім с/с Іўеўскага р-на, у с-се «Трабы».

**Ако'ліца Ле'пі** мнл., -цы -пяў, -цы -пях **Околица Лепи.** Акаліцале'пеўскі Околицелепевский в. у Канвелішкаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына.

**Ако'льна** н., -на, -не **Акольно.** Ако'льненскі Акольченский х. да 1969 г. у Паўлаўскім с/с Слонімскага р-на.

**Акуні'нава** н., -ва, -ве **Окуниново.** Акуні'наўскі Окуниновский в. у Новадзевяткавіцкім с/с Слонімскага р-на, у с-се «Бальшавік».

**Аку'шкава** н., -ва, -ве **Окушково.** Аку'шкаўскі Окушковский х. у Вішнеўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Акушко'ўшчына** ж., -ны, -не **Окушковщина.** Акушко'ўшчынскі Окушковщинский х. у Войстамскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Праўда».

**Ала'хаўшчына** ж., -ны, -не **Алаховщина.** Ала'хаўшчынскі Алаховщинский х. у Гальшанскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Гальшаны».

**Александро'ва** н., -ва, -ве **Александрово.** Александро'ўскі Александровский

в. у Абухаўскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Шлях да камунізму».

**Александры'на** ж., -ны, -не **Александрина.** Александры'нскі Александринский
х. у Канвелішкаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се імя І. У. Мічурына.

**Александры'я** ж., -ыі **Александрия.** Александры'йскі Александрийский
х. у Спондаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь»;
в. у Дзярэчынскім с/с Зэльвенскага р-на, у к-се «Светлы шлях».

**Але'ксічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алексичи.** Але'ксіцкі Алексичский
в. у Дзярэчынскім с/с Зэльвенскага р-на, у к-се «Светлы шлях».

**Але'кшыцы** мнл., -ыц/-цаў, -цах **Алекшицы.** Але'кшыцкі Алекшицкий
в.—ц. Алекшыцкага с/с Бераставіцкага р-на і к-са імя У. І. Леніна;
в. у Шылавіцкім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се «Талькаўцы».

**Алемпіно'ва** н., -ва, -ве **Олемпиново.** Алемпіно'ўскі Олемпиновский
в. у Гасцілаўскім с/с Лідскага р-на, у с-се «Малое Мажэйкава».

**Але'нічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Оленичи.** Але'ніцкі Оленичский
в. у Верцялішкаўскім с/с Гродзенскага р-на, у к-се «Прагрэс».

**Але'нкаўцы** мнл., -цаў, -цах **Аленковцы.** Але'нкаўскі Аленковский
в. у Мажэйкаўскім с/с Шчучынскага р-на, у с-се «Усход».

**Але'шавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алешевичи.** Але'шавіцкі Алешевичский
в. у Мікелеўшчынскім с/с Мастоўскага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева.

**Але'шкаўцы** мнл., -цаў, -цах **Алешковцы.** Але'шкаўскі Алешковский
в. у Галавічпольскім с/с Шчучынскага р-на, у с-се «Шчучынскі».

**Але'шышкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Алешишки.** Але'шышкаўскі Алешишковский
в. у Бялкоўшчынскім с/с Смаргонскага р-на, у с-се «Смаргонскі».

**Алёкса** ж., -сы, -се **Алёкса.** Алёксенскі Алёксенский
х. у Кемелішкаўскім с/с Астравецкага р-на, у с-се «Кемелішкі»;
х. у Трокеніцкім с/с Астравецкага р-на, у к-се імя В. У. Куйбышава.

**Алёхнавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алёхновичи.** Алёхнавіцкі Алёхновичский
в. у Жукоўшчынскім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се «1 Мая».

**Алізо'ва** н., -ва, -ве **Ализово.** Алізо'ўскі Ализовский
х. у Навасёлкаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Світанне».

**Аліс'е'вічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алисевичи.** Алісе'віцкі Алисевичский
в. у Ханявіцкім с/с Свіслацкага р-на, у к-се імя В. П. Чкалава.

**Аліʼшкаўцы** мнл., -цаў, -цах **Алишковцы.** Аліʼшкаўскі Алишковский
в. у Астрынскім п/с Шчучынскага р-на, у к-се імя М. А. Някрасава.

**Алта'жышкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Алтажишки.** Алта'жышкаўскі Алтажишковский
х. у Граўжышкаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя Н. К. Крупскай.

**Альге'цішкі** мнл., -шак/-каў, -как **Ольгетишки.** Альге'цішкаўскі Ольгетишковский
х. у Палянскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Маяк».
**Альгіня'ны** мнл., -ян/-наў, -нах **Ольгиняны.** Альгіня'нскі Ольгинянский
в. у Ізабелінскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Чырвоны Кастрычнік».
**Альта'рыя** ж., -ыі **Альтария.** Альта'рыйскі Альтарийский
х. у Трабскім с/с Іўеўскага р-на, у с-се «Трабы».
**Альфанто'ва** н., -ва, -ве **Альфонтово.** Альфанто'ўскі Альфонтовский
х. да 1974 г. у Паляцкішкаўскім с/с Воранаўскага р-на.
**Альфрэ'дава** н., -ва, -ве **Альфредово.** Альфрэ'даўскі Альфредовский
х. у Ліпнішкаўскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се «Радзіма».
**Альхо'ва** н., -ва, -ве **Ольхово.** Альхо'ўскі Ольховский
в. у Роскім п/с Ваўкавыскага р-на, у к-се імя 50-годдзя СССР.
**Альхо'ўка** ж., -кі, -ўцы **Ольховка.** Альхо'ўскі Ольховский
п. у Міхалішкаўскім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Зара»;
в. у Ваверскім с/с Лідскага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева;
в. у Ацмінаўскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Праўда».
**Альша'ны** мнл., -ан/-наў, -нах **Ольшаны.** Альша'нскі Ольшанский
в. у Цырынскім с/с Карэліцкага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».
**Альшы'мава** н., -ва, -ве **Ольшимово.** Альшы'маўскі Ольшимовский
в. у Субацкім с/с Ваўкавыскага р-на, ц. с-са «Дэкаратыўныя культуры».
**Альшы'на** ж., -ны, -не **Ольшина.** Альшы'нскі Ольшинский
х. у Гальшанскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Гальшаны».
**Альшэ'ва** н., -ва, -ве **Ольшево.** Альшэ'ўскі Ольшевский
х. у Падольскім с/с Астравецкага р-на, у с-се «Падольскі».
**Аляксa'ндравічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Александровичи.** Аляксa'ндравіцкі Александровичский
в. у Парэцкім с/с Дзятлаўскага р-на, у с-се «Парэчча».
**Аляксa'ндраўка** ж., -кі, -ўцы **Александровка.** Аляксa'ндраўскі Александровский
в. у Мураванаашмянкоўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Кастрычнік»;
в. у Ваўкавыскім с/с Ваўкавыскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава;
в. у Воўпаўскім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се «Воўпа»;
в. у Васілішкаўскім с/с Шчучынскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Аляксa'ндраўшчына** ж., -ны, -не **Александровщина.** Аляксa'ндраўшчынскі Александровщинский
в. у Каралінскім с/с Зэльвенскага р-на, у к-се «Каралін».
**Аляшкы'шкі** мнл., -шак/-каў, -как **Алекшишки.** Аляшкы'шкаўскі Алекшишковский
в. у Нацкім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Светлы шлях».
**Аляне'ц** м., -нца, -нцы **Оленец.** Аляне'цкі Оленецкий
в. у Залескім с/с Смаргонскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Аляні'шчаўка** ж., -кі, -ўцы **Оленищевка.** Аляні'шчаўскі Оленищевский
в. у Астрынскім п/с Шчучынскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Аля'ны** мнл., -ян/-наў, -нах **Оляны.** Аля'нскі Олянский
в. у Барунскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Баруны».

**Алясі'на** ж., -ны, -не **Алесина.** Алясі'нскі Алесинский
х. у Астравецкім с/с Астравецкага р-на, у с-се імя І. У. Мічурына.
**Аляхно'ва** н., -ва, -ве **Олехново.** Аляхно'ўскі Олехновский
в. у Каменналожскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна.
**Амаля'ны** мнл., -ян/-наў, -нах **Амоляны.** Амаля'нскі Амолянский
в. у Жупранскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Перамога».
**Амбі'леўцы** мнл., -цаў, -цах **Амбилевцы.** Амбі'леўскі Амбилевский
в. у Ляцкім с/с Шчучынскага р-на, ц. к-са «Бальшавік».
**Амбражы'левічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Амбражилевичи.** Амбражы'левіцкі Амбражилевичский
в. у Дзянісаўскім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се «Слава працы».
**Амбражы'на** ж., -ны, -не **Амбражина.** Амбражы'нскі Амбражинский
х. у Гальшанскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Гальшаны».
**Амбражы'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Амбражишки.** Амбражы'шкаўскі Амбражишковский
х. да 1974 г. у Паляцкішкаўскім с/с Воранаўскага р-на.
**Амне'вічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Омневичи.** Амне'віцкі Омневичский
в. у Паланаеўскім с/с Карэліцкага р-на, у к-се «Маяк»;
в. у Руткаўскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Прагрэс».
**Амша'ры** мнл., -ар/-раў, -рах **Амшары.** Амша'рскі Амшарский
в. у Падароскім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се «Падароск».
**Амялі'на** ж., -ны, -не **Омелина.** Амялі'нскі Омелинский
в. у Залескім с/с Смаргонскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Амяльні'к** м., Амельніка, Амельніку **Амельник.** Амяльні'цкі Амельникский
в. у Паўлаўскім с/с Слонімскага р-на, у к-се «Кастрычнік».
**Ана'нічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ананичи.** Ана'ніцкі Ананичский
в. у Дзянісаўскім с/с Дзятлаўскага р-на, у к-се «Слава працы».
**Ана'нішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Ананишки.** Ана'нішкаўскі Ананишковский
в. у Жупранскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя Ф. Багушэвіча.
**Анацкі'** мнл., -коў, -ках **Анацки.** Анацко'ўскі Анацковский
в. у Дакудаўскім с/с Лідскага р-на, у к-се «Іскра».
**Андзюле'вічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Андюлевичи.** Андзюле'віцкі Андюлевичский
х. у Радунскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Радунскі».
**Андру'ны** мнл., -ун/-наў, -нах **Андруны.** Андру'нскі Андрунский
х. у Пераганцаўскім с/с Воранаўскага р-на, у с-се «Пераганцы».
**Андру'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Андрушки.** Андру'шкаўскі Андрушковский
в. у Ліпнішкаўскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се «Маладая гвардыя».
**Андрушо'ўцы** мнл., -цаў, -цах **Андрушёвцы.** Андрушо'ўскі Андрушёвский
в. у Ляцкім с/с Шчучынскага р-на, у к-се «Бальшавік».
**Андрушо'ўшчына** ж., -ны, -не **Андрушёвщина.** Андрушо'ўшчынскі Андрушёвщинский
в. у Пескаўскім с/с Лідскага р-на, у к-се «Нёман».
**Андрушы'** мнл., -шоў, -шах **Андруши.** Андрушо'ўскі **Андрушёвский**

в. у Роскім п/с Ваўкавыскага р-на, у к-се імя 50-годдзя СССР.
**Андрэ′евічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Андреевичи.** Андрэ′евіцкі Андреевичский
в. і чыг. ст. у Гнезнаўскім с/с Ваўкавыскага р-на, у с-се «Гнезна».
**Андрэ′еўцы I** млн., -цаў, -цах **Андреевцы I.** Андрэ′еўскі I Андреевский I
в. у Сыраваткаўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Светлы шлях».
**Андрэ′еўцы II** мнл., -цаў, -цах **Андреевцы II.** Андрэ′еўскі II Андреевский II
в. да 1971 г. у Сыраваткаўскім с/с Смаргонскага р-на.
**Андрэ′йкішкі** мнл., -шак/-каў, -каx **Андрейкишки.** Андрэ′йкішкаўскі Андрейкишковский
х. у Крайванцаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя Ільіча.
**Анжа′дава** н., -ва, -ве **Анжадово.** Анжа′даўскі Анжадовский
в. у Крайванцаўскім с/с Ашмянскага р-на, ц. к-са імя Ільіча.
**Анку′ды** мнл., -уд/-даў, -дах **Анкуды.** Анку′дскі Анкудский
в. у Жупранскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Перамога».
**Ано′паль** м., -ля, -лі **Анополь.** Ано′пальскі Анопольский
х. у Варнянскім с/с Астравецкага р-на, у к-се імя К. Маркса.
**Антанёва** н., -ва, -ве **Антонёво.** Антанёўскі Антонёвский
в. у Ярэміцкім с/с Карэліцкага р-на, у к-се «Сіняўская Слабада».
**Антано′ва** н., -ва, -ве **Антоново.** Антано′ўскі Антоновский
х. у Барунскім с/с Ашмянскага р-на, у с-се «Баруны»;
х. у Пераганцаўскім с/с Воранаўскага р-на, у к-се «Новае жыццё».
**Антано′ўскія Па′секі** мнл., -кіх -ек/-каў, -кіх -ках **Антоновские Пасеки.** Антанаўскапа′сецкі Антоновскопасекский
в. у Геранёнскім с/с Іўеўскага р-на, у к-се імя XXII партз'езда.
**Антаны′** мнл., -ноў, -нах **Антоны.** Антано′ўскі Антоновский
в. у Крайванцаўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се імя Ільіча.
**Антасі′на** н., -на, -не **Антосино.** Антасі′нскі Антосинский
в. у Вішнеўскім с/с Смаргонскага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Анто′наўка** ж., -кі, -ўцы **Антоновка.** Анто′наўскі Антоновский
в. у Асташынскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Камунар».
**Анто′наўшчына** ж., -ны, -не **Антоновщина.** Анто′наўшчынскі Антоновщинский
в. у Шчорсаўскім с/с Навагрудскага р-на, у к-се «Звязда».
**Анто′нішкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Антонишки.** Анто′нішкаўскі Антонишковский
в. у Гервяцкім с/с Астравецкага р-на, у к-се «Світанне».
**Ану′сіна** н., -на, -не **Анусино.** Ану′сінскі Анусинский
х. да 1967 г. у Крайванцаўскім с/с Ашмянскага р-на.
**Анцулі′** мнл., -лёў, -лях **Анцули.** Анцулёўскі Анцулёвский
в. у Мураванаашмянкоўскім с/с Ашмянскага р-на, у к-се «Кастрычнік».
**Апаліна-Ба′сіна** н., Апаліна-Басіна, Апаліна-Басіне **Апалино-Басино.** Апаліна-Ба′сінскі Апалино-Басинский
в. у Вензавецкім с/с Дзятлаўскага р-на, ц. к-са «Зара».

